# НАШ МУЗЕЙ

Перад будынкам Барысаўскага краязнаўчага музея на праспекце Рэвалюцыі стаіць гармата часоў вайны 1812 года. Такім чынам, адзіны ў горадзе музей паведамляе гараджанам аб захаванні гістарычнай пераемнасці і запрашае неабыякавых людзей завітаць у атмасферу каменнага веку і сярэднявечча, прыгадаць Вялікую Айчынную вайну і нашэсце Напалеона.

Усяго наведвальнікі маюць магчымасць убачыць каля трох тысяч экспанатаў. Большасць з іх адлюстроўвае гісторыю горада падчас другой Сусветнай вайны і сучаснасці. Але выстаўленыя экспанаты музея складаюць толькі адну дзесятую частку ўсіх прадметаў, якія маюць гістарычную каштоўнасць. Усе яны руплiва і старанна збіраліся супрацоўнікамі з 1946 года, года заснавання.

Сярод пытанняў, якія былі зададзены падчас гутаркі дырэктару музея Н.С.Раховіч, было такое: чаму не выстаўляецца большасць экспанатаў, якія маюць дачыненне да гісторыі сярэдневечча горада, часоў ВКЛ, паўстання 1863 года? "Зараз не той час" ,- быў адказ. Дырэктар расказала, што ў выніку шэрагу абставін : адсутнасць выставачных памяшканняў, непрадуманасць сістэмы бяспекі, проста незацікаўленасці большасці людзей - вельмі рэдкія экспанаты знаходзяцца ў архівах. Іх час яшчэ не настаў.

Аднак нельга сказаць, што аматарам гісторыі не даюць магчымасці азнаёміцца з калекцыямі музея. Рэгулярна праводзяцца выязныя выставы, элітарныя кароткачасовыя экспазіцыі на месцы. Так можна адзначыць выставу зброі, якая была падрыхтавана і праведзена да 50-і годдзя Дня Перамогі. Ніколі раней барысаўчане не бачылі такога збору рарытэтаў. Магчыма, хтосьці пасля наведвання музея пераасэнсаваў свой погляд на гісторыю Барысаўшчыны, убачыўшы яе ў новым святле

Урэшце, наведванне музея робіць нас саміх больш чыстымі, адукаванымі, інтэлігентнымі, калі хочаце.

*С. Нялюбін.*

# ГЛУХОЕ ВОЗЕРА

Паміж вёскамі Мётча і Дроздзіна ёсць прыгожае лясное возера пад назвай Глухое. У ім шмат рыбы, вакол яго растуць дрэўцы, журавіны, дурніцы, багун і нават грыбы.

Возера нешырокае, але да яго нельга падысці, бо вагаюцца берагі. Яно хутка высыхае. Ні адзін ручэй не ўпадае ў гэтае возера і не выцякае з яго.

Нават зімою рэдка яно замярзае. А такое яно глыбокае, што, кажуць, нават няма дна. Многія хацелі вымерыць глыбіню. Яны звязвалі жэрдкі, дамагаліся дастаць дно, зрэдку жэрдка ўдаралася аб нешта цвёрдае, а потым патанала ў глыбіні.

Гавораць, што там, дзе цяпер возера, калісьці стаяла царква. Але ў зямлі зрабіўся правал, і царква правалілася ў яго. На тым месцы ўтварылася возера. І калі прыкласці да зямлі вуха, то часам можна пачуць глухі звон у вадзе. Таму і назва яму Глухое возера.

Раней людзі лічылі яго святым: не пілі ваду, не мылі бялізну, не купаліся, нават не лавілі рыбу. Грэх!

Часам за грахі людзей зямля правальваецца, і таму робяцца азёры, а іх на Беларусі - вялікая колькасць. Бо ведама, на гэтым свеце нельга не саграшыць. Таму праваленая царква, хоць і пад вадою, але застаецца святой. А пераканацца ў гэтым можна ў свята "Чысты чацвер", што перад Вялікаднём. Калі перад усходам сонца пайсці на возера, то быццам бы можна ўбачыць, як над вадой уcплываюць царскія вароты. Ці можа гэта мрэя, міраж?!

*Г.М.Абрамовіч,*
*настаўніца Мётчанскай СШ.*

# МАЯ РАДЗІМА – БЕЛАРУСЬ

У наш час яшчэ нярэдка можна сустрэць людзей, якія лічаць, што іх Радзіма - СССР. А ці можа ў прынцыпе быць Радзімай такое дзяржаўнае ўтварэнне як СССР?

Паняцце Радзіма ў любога чалавека заўсёды асацыіруецца з чымсьці блізкім, родным, добра вядомым, гэта значыць з тым, што ўтварае менталітэт, светапогляд і духоўнае багацце чалавека, фарміруе яго ўклад жыцця. Таму паняцці Радзіма і экзотыка несумяшчальныя. Для мяне, як, пэўна, для любога жыхара Беларусі, высокія горы Паміра, пустыні сярэдняй Азіі, крайні поўнач ці даліна гейзераў на Камчатцы - гэта экзотыка. У любой самай топкай багне беларускіх балот я буду адчуваць сябе значна лепей, чым, напрыклад, у пустыні Каракум ці астравах Новай Зямлі. Я са здавальненнем бы пазнаёміўся з дойлідствам расійскай поўначы, архітэктурнымі помнікамі Самарканда ці будысцкіх храмаў усходу Расіі. Але гэта ўсё для мяне экзотыка - нічога падобнага ў нас няма.

А што могуць сказаць тыя, хто лічыць сваёй Радзімай СССР? Хіба ж яны ведаюць з дзяцінства карэльскія эпасы? Хіба ж яны могуць што сказаць, напрыклад, пра вельмі старажытную гісторыю буратаў? Хіба ж яны ў танцах і спевах народаў крайняй поўначы знаходзяць магчымасць самавыражэння? Ці можа пад гукі бубнаў і заклінанні шаманаў шукаюць сувязь са сваімі продкамі? Пэўна, не. Таму, калі я ад каго чую, што ён лічыць сваёй Радзімай СССР, то я вельмі сумняваюся ў яго шчырасці. У большасці выпадкаў гэтыя людзі па тых ці іншых прычынах духоўна адарваліся ад сваёй Радзімы і не знайшлі сябе іншую. Хаця, канешне, іншая Радзіма ніколі не зможа замяніць сваю. Мне шчыра шкада такіх людзей.

*В.Стэфановіч.*



Волат тутэйшых лясоў. Фота В. Спіранскага.

# ПОДЫХ ГОТЫКІ

Готыка з'яўляецца адным з вялікіх і найбольш яскравых стыляў у сярэднявяковай архітэктуры і культуры наогул. Багата слядоў готыка пакінула на Беларусі. Што датычыцца Барысаўшчыны, то прынята лічыць, што тут ад яе нічога да нашага часу не дайшло. Але ці так гэта?

Мы нярэдка сустракаемся з адбіткамі старых эпох, але іх не заўважаем. Пры гэтым подых старажытнасці можа знаходзіцца ў літаральным сэнсе пад нашымі нагамі.Гэта можа быць вуліца, па якой мы ходзім, ці дакладней - планіроўка населеных пунктаў. Як вядома, кожнаму стылю ў архітэктуры адпавядае пэўная планіроўка мястэчак. На Беларусі мястэчкі, планіроўка якіх утваралася падчас позняй готыкі, мелі квадратную цэнтральную плошчу, ад якой па датычных адыходзілі прамыя вуліцы, плаўна пераходзячыя ў гасцінцы. Класічным прыкладам такой планіроўкі з'яўляецца цэнтральная частка Зембіна. Цэнтр мястэчка ўяўляе сабой амаль квадратную плошчу, ад якой адыходзяць шляхі на Барысаў, Лагойск, Плешчаніцы і Бягомль. На плошчы ў мінулыя часы вёўся гандаль. На ёй стаяў спачатку праваслаўны храм, які з цягам часу быў пераведзены ва ўніяцтва, а потым са зменай складу насельніцтва на яго месцы была пабудавана сінагога. На жаль, старая забудова плошчы не захавалася. Яе планіроўка трохі пашкоджана збудаваным домам культуры, але ў цэлым яна захавалася.

Дарэчы, Зембін па планіроўцы можа быць аднесены да заходнебеларускіх мястэчак. Інакш выглядалі ўсходнебеларускія мястэчкі. Па іх планіроўцы вельмі цяжка вызначыць час утварэння і культуру, пад уплывам якой яны фармаваліся. Такім мястэчкам уласціва аднавулачная планіроўка, г. зн. яны выцягваюцца ўздоўж цэнтральнай вуліцы. Прыкладам такіх мястэчак на Барысаўшчыне з'яўляюцца Аздзяцічы і Лошніца.

Планіроўка і сядзібная забудова тутэйшых мястэчак і вёсак даследаваны недастаткова, але яны маглі б нам шмат распавесці пра былыя часы.

*А.Барэвіч*

# МАРЫЦЬ МОЖНА!

Сірыйская драматургія ў Барысаўскім тэатры? Ад гэтай навіны патыхала калі не сенсацыяй, то экзотыкай, безумоўна.

Так, Барысаўскі народны тэатр "Відарыс" прэзентаваў сёлета гледачам сваю новую работу - спектакль па п'есе сірыйскага драматурга, тэарэтыка новага арабскага тэатра Саадала Ваннуса "Султан ёсць султан", ці "Што той султан, што гэты..." І адразу ж зрабілі гледачам прыемнае: дазволілі ўяўляць, фантазіраваць, марыць. Бо ў кожнага з нас ёсць свая мара, і яна не пакідае нас як цень.

У кожнага з герояў п'есы была свая мара. Але што можа параўнацца вось з гэтаю марай:

Калі б быў султанам я ў дзяржаве нашай,

Без маруды ўсіх бы сціснуў я ў кулак...

Так марыць той, хто не мае ніякай улады, - няўдачнік і п'яніца Абу Аза. Ці вось з гэтай: Я б паздзекаваўся над усёй краінай, над усім народам. Так марыць той, хто мае неабмежаваную ўладу - Султан.

Адзін марыць пра ўладу, каб адпомсціць усяму свету за свае непрыемнасці, а другі упэўнены ў непахіснасці сваёй улады, проста хоча нейкім незвычайным чынам пазабаўляцца, паздзекавацца над кім-небудзь, жорстка і бязлітасна.

І разгортваецца сюжэт, вельмі папулярны і ў народных казках, і ў мастацкай літаратуры. Назавём яго класічна, як у М.Твэна, прынц і жабрак.

Мары збываюцца. Султан прыдумаў, як незвычайна паздзекавацца са свайго народа. Ён аддае ўладу вечна п'янаму няўдачніку Абу Азе. Аддае ўладу дзеля смеху і здзеку усяго толькі на дзень. Але яшчэ народныя казкі кажуць, што самы хітры, самы мудры і прадбачлівы не Султан, а яго візір. Бо візір - асобы від раба, які надзелены ўладаю, але кожнае імгненне рызыкуе яе страціць. Самаўпэўнены і знуджаны адначасова жыццём у палацы Султан не паслухаў свайго візіра, які казаў, што ўладу нікому нельга аддаваць ні на імгненне, нават жартам. Не паслухаў не толькі таму, што самаўпэўненасць каму хочаш вочы засціле, а ў большай ступені таму, што ён забыўся на псіхалогію раба. Вакол жа ўсе рабы: ад падданых да яго старэйшай жонкі і візіра. А раб не можа існаваць без гаспадара ні хвіліны. Яму ўсё роўна, хто на троне: ці той султан, ці гэты. Таму і не зважаюць, што на троне раптам апынуўся нейкі валацуга з памятым ад п'янкі тварам. Яны ўсе гатовы служыць гэтак жа самааддана.

А што ж наш няўдачнік і п'яніца Абу Аза? Дык на троне ж няма гэтакіх. Там ёсць Султан. Яму па чыну належыць закручваць мацней гайкі ў дзяржаве. Да таго ж кожны Султан ведае, што нічога так не ачышчае правіцеляў, як кроў. Ну, а калі Султан некалі быў рабом, то ён як ніхто ведае, што такое бязлітасны метал сякеры. І таму не лепш трымаць у сваёй руцэ, не давяраючы нават руцэ ката.

Гэта гульня! Гэта гульня! - у адчаі крычыць султан. Магчыма, - гучыць з трона, - гэта гульня і была гульнёй, але з сённяшняга дня больш гуляць нельга. І фантазіраваць нельга. І марыць нельга. Што ж далей? А далей... Гісторыя расказвае пра адзін народ, які не захацеў больш цярпець насілле. Яны паўсталі... Зрэшты, гэта толькі мара. А Султан загадаў: Марыць нельга!

Султан жа ёсць Султан. Што ў Сірыі, што ў Цьмутаракані, што ў Лукамор'і... Вечная, але такая актуальная тэма, арыгінальнасць трактоўкі некаторых вобразаў, цудоўная гульня акцёраў, асоба рэжысёра - ўсё гэта складнікі поспеху.

Дзякуй "Відарыс"! Ты сказаў нам: Марыць можна!

*Г.Цяліпка*

# МОЛАДЗЬ І КУЛЬТУРА. ПОГЛЯД ЗНУТРЫ.

### 1.Паняцце культуры

Перш чым гаварыць пра культуру, трэба дамовіцца, што мы будзем разумець пад гэтым паняццем. Звычайна пры слове "культура" у нас узнікаюць асацыяцыі з тэатрам, балетам, мастацкімі выставамі і класічнай музыкай. Аднак гэты артыкул не пра паходы ў тэатр, не пра музыку Джузэпе Вердзі. Гаворка пойдзе пра маладзёжную культуру - абыдзенную і кожнадзённую, г. зн. пра сукупнасць зацікаўленняў, заняткаў і захапленняў сучаснай моладзі.

### 2.Сучасная маладзёжная культура

Якімі ж інтарэсамі і заняткамі жыве сучасная моладзь? Тут варта адзначыць, што большасць маладых людзей - гэта вучнёўская моладзь. І як вынік - дамініраванне вучнёўскай культуры. Большасць падлеткаў сутыкаецца з класічнымі творамі і навучаецца культуры зносін менавіта ў школах, вучылішчах. Наколькі паспяхова праходзіць працэс успрыняцця і ўсведамлення моладдзю гэтых культурных пачаткаў можна меркаваць па ўзроўню культуры сучасных падлеткаў. І ці можа быць па-другому?

Дарослыя разумныя дзядзькі і цёткі спрабуюць сілком далучыць моладзь да высокіх матэрый. "Хто не паедзе ў тэатр, таму паставім двойку." "Не вывучыш верш Пушкіна - прыдзеш з бацькамі." "Не будзеш прымаць удзел у грамадскім жыцці і дрэнна вучыцца - прагонім са школы." Усё гэта выклікае рэакцыю непрыняцця класічнай культуры, "прыстойнага свету". Падлетак шукае выхад сваім эмоцыям, перажыванням.

Не толькі ў заходніх краінах, але і ў нас у буйных гарадах моладзь усё часцей далучаецца да плыняў так званай контркультуры. Гэта хіпі, рокеры, панкі і т.д. "Не слухай бацькоў, спалі свае грошы ..." "Людзі, ідзіце да д'ябла з вашымі мэтамі..." Усё гэта дае неабходную разрадку.

У нас у Барысаве гэтыя "павевы свабоды" не сфарміраваліся , і моладзь "тусуецца" ў пад'ездах, брые галовы ці, наадварот, адрошчвае доўгія валасы, ходзіць на дыскатэкі і п'е. Дарэчы, пра апошняе. П'юць усе. І брытагаловыя і патлатыя. Выпітае становіцца прадметам абмеркавання і гордасці.

Вядома, ёсць маладыя людзі, каторыя актыўна займаюцца спортам, музыкай ці чым іншым. Але гэта хутчэй выключэнні, якія пацвярджаюць правіла.

### 3.Нацыянальная культура

Ці ёсць наогул у нашай моладзі ўсведамленне сваёй нацыянальнасці? Думаю, што не. Для таго, каб усвядоміць сваю прыналежнасць да якога-небудзь народа, адчуць і прыняць яго гістарычную і культурную спадчыну,патрэбны пэўныя інтэлектуальныя намаганні нават у грамадстве, дзе да гэтага адносяцца з вялікай увагай. А прыкладаць намаганні ў гэтым напрамку, купаючыся ў спіртным ці, тым больш, прымаючы наркотыкі, дастаткова цяжка і праблематычна.

Размаўляць па-беларуску толькі ў школе, чуць мову толькі ад дыктараў радыё і тэлебачання (рэдка і не ў лепшым выкананні) - вось што дастаецца на долю сучаснай моладзі, калі мець на ўвазе яе дачыненні з нацыянальнай культурай.

І што асабліва крыўдна, усё гэта адбываецца на фоне поўнай абыякавасці з боку грамадства. Ніхто не забараняе гаварыць па-беларуску, займацца этнаграфіяй і гісторыяй, але ніхто і не заахвочвае.

Нацыянальная беларуская, як, дарэчы, і руская ідэя, у асяродзі моладдзі ў глыбокім упадку.

### 4.Што рабіць?

З усяго, што было сказана раней, відаць, наколькі своеасаблівая маладзёжная культура сфарміравалася ў нас сёння. І для таго, каб штосьці змяніць, не трэба забараняць дыскатэкі, уводзіць сухі закон і калонамі заганяць вучняў школ ў тэатры. Проста трэба, каб кожны ўсвядоміў, што адбываецца ў грамадстве і змяніў у першую чаргу сябе. Калі кожны асобны чалавек стане крышку лепшым, культурнейшым, то грамадства зменіцца істотна і вынікі не прымусяць чакаць сябе доўга. Я думаю, паперка, якую кінуць у карзіну, а не на асфальт, стане добрым пачаткам.

*С.Нялюбін.*

**АД РЭДАКЦЫІ: магчыма асобныя думкі, якія выкладзены ў артыкуле здадуцца камусьці спрэчнымі. Запрашаем вас выказаць сваё меркаванне па ўзнятай аўтарам праблеме.**

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у №1 за 1996 г., №1,2 за 1997 г.)*

## Наш край у IX - XI стагоддзях

Калі пачало Полацкае княства складвацца як буйное дзяржаўнае ўтварэнне і ў які час у яго ўвайшлі нашы землі, зараз сказаць цяжка. Згодна існуючых даследванняў Барысаўшчына ў сярэдзіне IX ст. цалкам уваходзіла ў яго склад. Полацкае княства знаходзілася паміж Кіевам і Ноўгарадам, якія былі супернікамі ў справе аб'яднання ўсходнееўрапейскіх земляў. Таму войны ў нашым краі былі досыць частай з'явай.

Суперніцтва паміж Ноўгарадам і Кіевам урэшце рэшт прывяло да дамінавання апошняга над Полацкам. Аднак ужо напрыканцы X стагоддзя Полацкае княства канчаткова аформілася як самастойнае дзяржаўнае ўтварэнне. Толькі час ад часу на непрацяглы тэрмін Палаччына губляла самастойнасць. Гэта мела месца ў 975-988, 1021 і 1066-1073 гадах. Яна часова трапляла пад уладу Кіева.

Амаль бесперапынныя войны між усходнееўрапейскімі княствамі не раз закраналі і наш край. Так, у 1067 годзе пасля вядомай бітвы на Нямізе кіеўскае войска князя Ізяслава рушыла на ўсход у напрамку Воршы. Усе, што было на шляху войска, падвяргалася разарэнню. Верагодна, што тады быў разрабаваны і наш край. Зімой на пачатку 1078 года кіеўскі князь Манамах супольна з князямі іншых княстваў Русі і ардою полаўцаў хадзілі на Полацк. Сам Полацк яны ўзяць не змаглі, але шмат земляў разарылі, шмат людзей узялі ў палон. Войскі Манамаха сумесна з ардой полаўцаў пайшлі на Менск, Воршу. Трэба меркаваць, што і наш край яны не абмінулі. Пасля таго, як Манамах пайшоў адсюль на Чарнігаў, полацкі князь Усяслаў нанес адказны ўдар - напаў на Смаленск і разрабаваў яго. Манамах, як толькі даведаўся аб гэтым, пайшоў адразу на Смаленск і далей па слядах Усяслава. Але апошні паспеў схавацца ў Полацку. Тады Манамах у помсту Усяславу пайшоў на Лукомль, Лагойск, Друцк. Наш край тады зноў падвергся рабаванню.

У 1092 годзе ў Полацкім княстве была моцная эпідэмія. Яна пачалася ў Друцку і хутка разышлася па княству. Шмат людзей тады загінула. Безумоўна, гэта навала не магла абмінуць наш край.

## Заснаванне Барысава і падзеі XII - другой паловы XIII стагоддзяў

На пачатку II тысячагоддзя наш край меў вялікія лясы. У той жа час было вельмі мала шляхоў зносін. Так, каб перасекчы Барысаўшчыну з усходу на захад мелася два шляхі. Адзін з іх ішоў з Друцка на Начу, далей праз сучасную Лошніцу, Старабарысаў, потым уверх па левым беразе Бярэзіны да месца ўпадзення ў яе Гайны. Далей на Зембін, Лагойск, Заслаўе, Менск. Другі шлях ішоў з Друцка ўздоўж ракі Бобр праз сучасныя Чэрнеўку, Чарневічы і далей на Менск. Іншых, больш кароткіх шляхоў на Менск тады не было. На захад ад месца Барысава мясціліся непраходныя лясы, у якіх у невялікай колькасці жылі балты. Яшчэ адным важным шляхам праз нашы землі была Бярэзіна. Месцы, дзе сыходзіліся наземныя і водны шляхі зносінаў, мелі вялікае стратэгічнае значэнне. Да таго ж у такіх месцах былі неблагія перадумовы для развіцця гандлю і эканомікі.

У 1102 годзе полацкі князь Барыс Усяслававіч меў вайсковы паход на яцвягаў. Паход скончыўся паспяхова, а па вяртанню з яго быў заснаваны горад, якому князь даў свае імя - Барысаў. Цікавым з'яўляецца пытанне: дзе жылі тыя яцвягі. Прынята лічыць, што яны насялялі тэрыторыю поміж Нёманам і вярхоўем ракі Нараў, хаця шмат кім гэта ставіцца пад сумненне. Аднак, па-першае , гэта робіць зусім незразумелай сувязь паміж такімі звязанымі падзеямі, як паход на яцвягаў і заснаваннем горада. Па-другое, па правым беразе Бярэзіны на захад ад сучаснага Барысава сустракаюцца рэшткі балцкіх пасяленняў, якія не маюць больш позніх культурных палажэнняў і захаваліся да нашага часу практычна ў першапачатковым выглядзе. Гэта магло мець месца толькі пры гвалтоўным спыненні іх існавання. Падобныя пасяленні паабапал Бярэзіны захаваліся значна горш і маюць больш познія культурныя наслаенні. Гэты факт можа быць растлумачанны, напрыклад, знішчэннем пасяленняў падчас вайсковых дзеянняў. Па-чацвёртае, на правым беразе Бярэзіны насупраць месца заснавання Барысава знаходзілася значнае балцкае пасяленне. Яно вылучаецца сваей нетыповасцю. Тут знаходзіліся адно каля аднаго два гарадзішчы. Прытым, больш позняе з іх (яно было значна лепш умацаванае) мела меншую плошчу. Каля гарадзішча знаходзілася немалое па тых часах селішча, навокал якога знаходзілася курганная група. У апошняй, дарэчы, былі як круглыя, так і доўгія курганы. Сюды варта дадаць і тое, што відаць невыпадкова шлях з усходу падыходзіў да Бярэзіны менавіта каля названага пасялення. Улічваючы стратэгічную важнасць гэтага месца і яго асаблівасці, можна выказаць меркаванне, што гэта быў адзін з тэрытарыяльных цэнтраў балтаў.

Такім чынам, дастаткова ўпэўнена можна сказаць, што ў 1102 годзе полацкі князь Барыс меў паспяховы паход на балтаў, якія жылі ў лясах па правым беразе Бярэзіны. Пасля іх разгрому насупраць балцкага цэнтра ў месцы падыходу да Бярэзіны стратэгічна важнага шляху, які ішоў з усходу на захад, быў заснаваны горад, які павінен быў гарантаваць немагчымасць адраджэння моцы балтаў. Месца заснавання Барысава, згодна археалагічных дадзеных, знаходзіцца ў Старабарысаве, дзе цяпер стаіць сядзібны дом пачатку XX стагоддзя. Даследаванні археолагаў у Барысаве і яго ваколіцах абвяргаюць сцвярджэнні асобных аўтараў аб тым, што горад пры яго заснаванні быў заселены палоннымі яцвягамі.

Да заснавання горада князем Барысам на гэтым месцы хутчэй за ўсе было больш старое пасяленне. Сведчаннем гэтаму могуць быць керамічныя вырабы IX, канца X - пачатку XI стагоддзяў, якія знойдзены ў Старабарысаве. Што ўяўляў сабой Барысаў на пачатку свайго існавання? Ен быў заснаваны найперш ак абаронча ўмацаваны пункт. Таму яго аснову складаў замак. Апошні быў драўляны. Згодна рэканструкцыі Штыхава ў XII - XIII стагоддзях Барысаў меў дзядзінец плошчай каля 10 тысяч квадратных метраў і навакольны горад-пасад, які займаў плошчу ў 40 тысяч квадратных метраў. Агульная колькасць насельніцтва тагачаснага Барысава магла скласці 700 - 850 чалавек, з якіх 200-250 жылі на дзядзінцы. Археалагічныя доследы, якія мелі месца ў Старабарысаве, дазволілі выявіць на месцы Барысаўскага замка сляды аднаго будынка слупавай канструкцыі памерамі 3х3 метры і паўзямлянкі памерамі 2.2х2.2 метра. Сярод рэчаў знойдзены нажы, навясны замок, сякера, цвік, тачыльны камень, шмат керамікі і іншае. Багата знойдзена ўпрыгожванняў, у тым ліку адно залатое вісочнае кальцо, якое мела тры пацеркі. У цэлым склад рэчываў з дзядзінца і навакольнага горада гаворыць аб тым, што Барысаў быў у XII-XIII стагоддзях тыповым горадам тагачаснага Полацкага княства.

На пачатку XII стагоддзя асобныя ўдзелы Полацкага княства ўсе болей выступаюць як самастойныя палітычныя адзінкі, хаця супраць вонкавага ворага яны былі аб'ядняны.

У 1114-1115 гадах менскі князь Глеб меў шмат паспяховых вайсковых паходаў, у якіх багата ўзяў палонных. Апошніх сялілі пераважна ў малазаселеных ваколіцах Бярэзіны.

У 1125 годзе ў Барысаве кіраваў хутчэй за ўсе адзін з сыноў былога полацкага князя Усяслава, брат менскага князя Глеба. У тым жа 1125 годзе ў Кіеве памёр Манамах, і Русь пачала канчаткова рассыпацца на асобныя княствы. Апошнім сумесным дзеяннем княстваў Русі быў іх паход на Полацк у 1127 годзе. Узначальваў кааліцыйныя войскі кіеўскі князь Мсціслаў. Супольныя войскі павінны былі ў адзін дзень напасці на чатыры гарады - найважнейшыя абарончыя пункты ў паўднёвай частцы Полацкага княства. Адным з тых гарадоў быў Барысаў. На яго былі накіраваны войскі чарнігаўскага князя Давіда Ольгавіча, які быў з братамі і вернымі войскамі торкаў. Апошніх узначальваў Іван Вайцішыч. 4 жніўня 1127 года сумесныя чарнігаўскія і торскія войскі абклалі Барысаў і ўзялі яго штурмам. Далейшы рух на поўнач кааліцыйнага войска не меў месца, бо тым часам у Полацку адбылася змена князя. Новы полацкі князь Барыс-Рагвалод прызнаў сваю пакорнасць ад Кіева. Чарнігаўскі князь Давід захапіў шмат палонных з жыхароў нашага краю і сышоў са сваім і торкскім войскам з земляў Полацкага княства.

Падпарадкаванне Полаччыны, у тым ліку і нашага краю, Кіеву цягнулася нядоўга. Ужо на наступны 1128 год памірае Барыс-Рагвалод, і усё становіцца на сваё месца, але на не працяглы тэрмін. З 1129 па 1132год Полаччына зноў трапляе пад уладу Кіева.

У другой палове XII стагоддзя абвастраюцца супярэчнасці паміж удзеламі Полацкага княства. У гэты час праз нашы землі шмат разоў праходзілі князі са сваімі войскамі, што, напрыклад, мела месца ў 1158 годзе. З 1159 па 1166 год полацкі князь Рагвалод чатыры разы хадзіў на Менск. Верагодна, што гэтыя паходы не маглі абмінуць нашы землі. У 1180 годзе падчас кааліцыйнага похода на Друцк праз Барысаў ішоў Лагойскі князь Усяслаў Мікуліч са сваім войскам. Да гэтага часу міжусобіца паміж полацкімі ўдзеламі ў асноўным заканчваецца.

Каля 1199 года адзін з полацкіх князёў адбудаваў у Барысаве замак і ўмацаваў яго. Наш горад быў не толькі важным абарончым пунктам, але быў і адміністрацыйным цэнтрам. Ён меў сваю воласць, якая напрыканцы XII-пачатку XIII стагоддзяў была адным з пятнаццаці княстваў на тэрыторыі Полацкай дзяржавы. Якія землі ўключала ў сябе Барысаўскае княства, дакладна казаць цяжка. Але, калі ўлічыць тое, што тэрытарыяльна-адміністрацыйнае дзяленне ў Вялікім княстве Літоўскім у XV-XVI стагоддзях рабілася на падставе межаў старых княстваў і прааналізаваць звесткі аб Барысаўскай воласці ў XIV-XVIII стагоддзях, то можна зрабіць наступную выснову. Барысаўскае княства на пачатку XIII стагоддзя ўключала ў сябе левабярэжныя землі Бярэзіны да ракі Бобр на поўдні, далей па рацэ Нача ці нават усходней яе. На поўначы ў Барысаўскае княства ўваходзілі землі, дзе цяпер месцяцца вёскі Студзенка, Вялікая і Малая Трасцяніца, Барань і іншыя. Не ўваходзілі ў Барысаўскае княства землі, дзе зараз знаходзіцца вёска Крычына і іншыя паўночныя і частка паўночна-ўсходніх земляў Барысаўшчыны.

У сярэдзіне XIII стагоддзя цэнтр палітычнага жыцця паступова пераходзіць з Полацка ў Наваградак. Там ў 1253 годзе адбылася каранацыя Міндоўга і прызнанне Вялікага Княства Літоўскага ў Еўропе як дзяржавы. З Наваградка пачалося аб'яднанне ўсіх беларускіх земляў, і не толькі іх, у адну дзяржаву. Полаччына, у тым ліку заходняя і паўночная частка нашага краю, былі мірным чынам далучаны да новаўтворанай дзяржавы падчас княжання ў Наваградку Войшалка, што мела месца ў 1264-1267 гадах. Сам Барысаў і астатняя частка нашага краю былі далучаны да Вялікага княства Літоўскага на некалькі дзеся ткаў гадоў пазней, напрыканцы XIII стагоддзя.




*(Працяг будзе)*

*М.Мацельскі.*




ШТО ПРАДРОК...







ТОЕ І АТРЫМАЙ

# УСМЕШКІ МАСТАКА

*Малюнкі Л.Гадуна.*







# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Металургічны завод, які дзейнічаў у 1854-81 гадах у Чэрнеўцы з 1858 года, быў буйнейшым металургічным заводам на Беларусі і з'яўляўся адным з найбольш значных металургічных заводаў тагачаснай Расійскай імперыі. Ён працаваў на тутэйшай балотнай рудзе. На заводзе ў 1867 годзе было занята 437 чалавек.

Барысаўская запалкавая фабрыка "Вікторыя", якая дзейнічала ў 1881 - 1914 гадах, была самай вялікай на Беларусі і адной з буйнейшых у Расійскай імперыі. У 1902 годзе на фабрыцы працавала 823 рабочых.

Гарадская тэлефонная сетка ў Барысаве існуе з 1899 года. Да 1911 года тэлефонная сетка Барысава была звязана з Менскам. Гэта была адна з чатырох першых у тагачаснай Расійскай імперыі міжгародная сувязь, якая звязала розныя паветы.

У розныя часы да 1917 года у Барысаве існавала 6 друкарняў. Найбольш старая з іх была заснавана ў 1877 годзе. У барысаўскіх друкарнях з 1877 па 1917 год было выдзена больш васьмідзесяці найменаванняў кніг.

У1913 годзе ў Старабарысаве дзейнічала электрастанцыя магутнасцю 115 кВт.

У Неманіцы ў 1912 годзе існавала фабрыка па вырабу аптэкарскіх скрынак.

# Я НЕ ЗГОДНЫ!

Нядаўна ў Барысаве былі заменены на новыя шыльды многіх гарадскіх вуліц. Аднак засмучае тая акалічнасць, што ўсе шыльды зроблены выключна на рускай мове. Чаму? Мы ж жывем на Беларусі, а беларуская мова як была, так і засталася дзяржаўнай.

На пастаўленае пытанне можна прагназаваць тры варыянты адказу:

1. Тут пражывае выключна рускамоўнае насельніцтва.

2 Тыя, хто рабілі шыльды, не ведаюць беларускай мовы.

3. Тутэйшае рускамоўнае насельніцтва не ў стане разумець беларускую мову нават на шыльдах, а меркаванні ўсіх астатніх жыхароў не маюць значэння.

Разгледзім гэтыя варыянты адказаў. Першы. Як мы ўжо гаварылі раней, у нас рускамоўнае насельніцтва, як і, на жаль, беларускамоўнае, вельмі маралікае. Пераважную большасць тутэйшых жыхароў складае так званае трасянкамоўнае насельніцтва. Дарэчы, сціплыя намаганні барысаўцаў па папулярызацыі беларускарускай трасянцы зараз ужо вядомы далёка за межамі нашага краю. Сведчаннем гэтаму, мусіць, можа быць і тое, што на асобных электрацягніках на месцы станцыі прызначэння пішуць ужо "Барысов". Ва ўсякім разе мнe гэта даводзілася назіраць некалькі раз...

Але вернемся да магчымага адказу на пастаўленае пытанне. Відавочна, што першы варыянт адпадае. У адваротным выпадку, больш лагічна было б выконваць шыльды на трасянцы.

Другі варыянт адказу адпадае хаця б толькі таму, што многія папярэднія надпісы выконваліся па-беларуску. Ва ўсякім разе ў гэта вельмі хочацца верыць.

Што застаецца? Трэці варыянт адказу? Але я з гэтым не згодны. Гэта няпраўда, што тутэйшае рускамоўнае насельніцтва настолькі непісьменнае. Таму я мушу стаць на іх абарону. Да таго ж вельмі крыўдна, што з меркаваннем карэнных жыхароў той-сёй у нас ужо не вельмі лічыцца.

Хацелася б выказаць пажаданне, каб у далейшым шыльды вуліц рабіліся на тутэйшай - беларускай мове, мове тых, хто пакінуў нам такую багатую спадчыну, якую трэба шанаваць, а не ганьбіць.

*Ян Юроўскі.*

*Ёсць на Барысаўшчыне цікавы куточак з цэнтрам у вёсцы Мётча, які паэтычна завецца Мядоцкім краем. Там жывуць і працуюць таленавітыя людзі: хлебаробы, будаўнікі, настаўнікі і ... паэты. Адзін з найбольш таленавітых - сын дырэктара мясцовай школы Янка Лайкоў - цяпер студэнт БДУ. Аб прыродзе яго таленту арыгінальна і дакладна сказана ў рэцэнзіі да маючага выйсці ў свет зборніка "Акраец па-ветра", якую напісаў вядомы паэт сучаснасці Рыгор Барадулін. Саму рэцэнзію і два вершы Янкі Лайкова рэдакцыя з прыемнасцю друкуе.*

## У паэтаў думае душа

Праўда, як заўсёды, на баку прыказкі. Якое дрэва, такі клін, які бацька, такі сын. У дадзеным выпадку гэта стасуецца да маладога на гады, але дарослага на ўмельства паэта Янкі Лайкова. Гэта ягоны бацька Уладзімір Лайкоў зрабіў Мядоцкую школу сапраўдным запаведнікам (як бы сумна не гучала гэтакае параўнанне) беларускасці. А будучага паэта я памятаю школьнікам. І калі студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта прынёс мне ніштаваты стусок вершаў, зірнулі на мяне знаёмыя вочы - задуменныя і сумныя. Яны адтуль, з далёкай зімы ў Мётчы, дзе прымаў мяне гасцінны дырэктар школы, шчыры беларус Уладзімір Лайкоў. Тады зразумеў я, адчуў, што сарамяжлівa замкнёны школьнік - будучы паэт. І не памыліўся.

Янка Лайкоў - натуральны беларускі паэт. Паэт ад бога. Паэт ад прыроды.

Янка Лайкоў - птах з маладога паэтычнага выраю, які ўзгадаваны новым часам, які паклікаы сподзевам, які акрылены прагай беларушчыны.

Янка Лайкоў - паэт пачуцця і роздуму А гэта зарука поспеху.

Добра, што няма ў вершах паэта даніны благой традыцыі нашай паэзіі, традыцыі плачу па басаногіх сцежках, цялячага расчулення па любой драбязе. Янка Лайкоў болей сумуе, чымсьці радуецца. Сумуе па каханню, сумуе, бо хоча зразумець сутнасць жыцця, сутнасць свету. А сум - бацька паэзіі вечнай, як само жыццё.

Кніга Янкі Лайкова "Акраец паветра" - самы маладзічок маладога хлеба беларускага духу, маладзічок, які абяцае быць поўняю.

Гэта беларуская годнасць прамаўляе радкамі Янкі Лайкова:

**Кавалкі думак маіх**
**Існуюць ва ўсіх частках Сусвету,**
**І радкі перад вамі - не словы паэта,-**
**Кавалкі думак маіх.**

У паэтаў думае душа. І паэзія Янкі Лайкова цвердзіць гэта.

*Рыгор Барадулін.*

### Санет

**Пасланнік сонца, промень ясны,**
**Прабіўся праз аблокаў дым,**
**Зрабіўся раптам залатым,**
**І тут жа знік у адначассе.**
**Бо хмараў цёмныя драконы,**
**Што верна служаць навальніцы,**
**Яго схавалі ў камяніцу,**
**Дзе страх - наглядчык, змрок - заслона,**
**Пацук вусаты - кат з сякерай.**
**Няма ў горных сценах веры...**
**Але не ўсё спрадвеку ў свеце:**
**Надыдзе светлы час надзеі,**
**Разгоніць хеўру свежы вецер,**
**І мусяць згінуць ліхадзеі!**

### Мелодыя світання

*(Алегу Атаманаву)*

**Замірае свет у адчаі,**
**Просіць дапамогі.**
**Шпарка цемра паглынае**
**Усё: палі, дарогі.**

**Не відаць нічога болей,**
**Патанулі рэчы.**
**Гэта змрок ізноў адолеў**
**Сон кароткі - вечар.**

**Ноч знянацку падступіла**
**І спраўляе балі,**
**У небе поўня зноў застыла**
**З зоркамі - каралямі.**

**Але што такое раптам**
**Заспявала звонка?**
**Мабыць, золак рушыў ў сваты**
**Да раніцы зноўку.**

**Ноч прымала пакаранні,**
**Неба свет страчала,**
**А мелодыя світання**
**Гучна, гойна грала**

## ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧ!

Наша газета ўжо знаёміла цябе з тымі, хто мае паэтычныя здольнасці. Сёння ж твайё увазе прапануюцца два творы вучня палітэхнічнага ліцэя Аляксандра Яшчанкі. Хоць гэтыя вершы яшчэ не зусім адшліфаваныя, але, безумоўна, іх аўтар асоба здольная. Да таго ж відаць, што Саша вялікі патрыёт роднай Беларусі, а гэта ўжо вельмі добра.

### Беларусь

**Ты, як птушка, ляціш над зямлёю.**
**Ты, як казка, прыходзіш у сне.**
**О, мая Беларусь, я з табою,**
**Я ніколі не здраджу табе!**

**Я ў снах тваё бачу прасторы,**
**Твае казкі я слухаць люблю,**
**Пра людское нязменнае гора,**
**Пра тваю маладую зямлю.**

**Прыгажэйшага краю не бачыў,**
**Я не помню шчадрэйшай зямлі.**
**Што смачней тваёй бульбы гарачай?**
**Прыгажэй за дубравы, палі?**

**Шмат краін ёсць - Амерыка, Чылі,**
**Але дзе б я нагой ні ступіў,**
**Беларусь, мой куток самы мілы.**
**Я цябе на вякі б не забыў!**

* * *

### Мова

**Божа мой любы, Божа мой мілы,**
**Дай мне магутныя, моцныя крылы,**
**Каб я ўзляцеў вышэй соснаў зялёных,**
**Пушчаў, балот і лясоў незлічоных,**
**Крыкнуў бы так, каб усе людзі пачулі,**
**Мову маёй Беларусі-матулі.**
**Каб мова адбілася ў чыстых старонках,**
**На люцікаў жоўтых, на белых рамонках,**
**Каб дуб гаманіў беларускаю мовай,**
**На хвалях няслі б яе Прыпяць і Нёман,**
**Каб рэхам ляцела ў кожныя вусны,**
**У кожную хату, дзе ёсць беларусы.**
**Вось я б узляцеў вышэй соснаў зялёных,**
**Пушчаў, балот і лясоў незлічоных,**
**Крыкнуў бы чутна на мове прыгожай:**
**"Дзякуй табе, міласэрнейшы Божа!"**

# КРЫЖАВАНКА

Адгадайце сем слоў, што размешчаны па гарызанталі. Пасля гэтага вызначыце прозвішча аднаго з найбольш вядомых дзяржаўных дзеячоў за ўсю беларускую гісторыю, які пэўны час меў землі на поўдні Барысаўшчыны (**1 па вертыкалі**).

**По гарызанталі**: 2 - адна з найбольш распаўсюджаных у былыя часы назваў вёсак на Барысаўшчыне; 3 - сучасная назва вуліцы Хітрыкаўская ў Барысаве; 4 - былы гаспадар сядзібнага дома, які ўзведзены ў XIX стагоддзі і знаходзіцца ў Новабарысаве; 5 - самая заходняя вёска на Барысаўшчыне; 6 - рака, якая ўпадае ў возера Пялік.




**Адказы на крыжаванку**, што была змешчана ў ГБ №2(3): 2 - Мужанка; 3 - Лапаціна; 4 - Крацэвічы; 5 - Разуваеўка; 6 - Глівінская; 7 - Ніціеўшчына; 1 - Луцэвіч.

Гоман Барысаўшчыны

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі:І.Белы, У.Буйко,У.Дубаневіч, М.Мацельскі,М.Пучыла.

Рэдактар М. Мацельскі

Адрас рэдакцыі : г. Барысаў, 1-ы зав. К. Лібкнехта, 1

Камп'ютарная вёрстка "БН"

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 14.00 22.05.98 г.

Замова №

Аршанская друкарня г. Орша, вул. Замкавая, 3

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а / с 43*